**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

39 (547) 30 верасня 2010 года

Кошт **свабодны**





Фота Ул. Скрабатуна

# Íà ïàñàäó ïðýç³äýíòà Áåëàðóñ³ ïðýòýíäóþöü 17 ÷àëàâåê

■ **Сяргей Каралевіч,** *БелаПАН*

**Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў 17 ініцыятыўных груп па вылучэнні кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі. Прыём заяў на рэгістрацыю ініцыятыўных груп праводзіўся з 15 па 24 верасня. У ЦВК паступіла 19 заяў.**

20 верасня была зарэгістравана першая ініцыятыўная група — старшыні савета Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва Віктара Цярэшчанкі.

Сёння ЦВК разгледзеў астатнія 18 заяў.

У рэгістрацыі ініцыятыўных груп адмоўлена Наталлі Старыкавай, санітарцы водалячэбніцы санаторыя "Чонкі" (Гомельскі раён), і беспрацоўнаму з Мінска Ільі Дабратвору. У ініцыятыўнай групе Старыкавай налічваецца ўсяго 30 чалавек замест неабходных паводле закону 100, у Дабратвора — адзін; акрамя таго, яму няма 35 гадоў (1981 года нараджэння).

Рознагалоссі ў членаў ЦВК з'явіліся пры разглядзе заявы лідара грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!" паэта Уладзіміра Някляева.

Сакратар ЦВК Мікалай Лазавік прапанаваў адмовіць Някляеву ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы на той падставе, што апошнія 10 гадоў ён пэўны час жыў за мяжой.

Сам Някляеў растлумачыў, што гэта былі творчыя камандзіроўкі, юрыдычна ён не эміграваў, а значыць, мае права балатавацца, бо дэ-юрэ пастаянна пражываў у Беларусі. У пацвярджэнне Някляеў падаў даведкі з домаўпраўлення.

Член камісіі Надзея Кісялёва заявіла, што сур'ёзных заўваг да Някляева няма. Яе падтрымала старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына, якая заявіла, што хоць СМІ паведамлялі аб эміграцыі Някляева, фармальных доказаў таго, што ён не пражываў у Беларусі, няма. Акрамя таго, Ярмошына спаслалася на прыклад Зянона Пазняка, які пражывае за мяжой, але яго ініцыятыўная група была зарэгістравана на выбарах 2006 года.

У выніку за рэгістрацыю групы Някляева прагаласавала восем членаў ЦВК, супраць — тры.

Паўстала пытанне і пры разглядзе заявы лідара Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргея Гайдукевіча. Высветлілася, у прыватнасці, што некаторыя члены яго ініцыятыўнай групы не з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі. Аднак большасцю галасоў ЦВК групу Гайдукевіча зарэгістравала: дзевяць — за, два — супраць.

Пры разглядзе заявы Аляксандра Лукашэнкі індывідуальны прадпрымальнік з Віцебска Уладзімір Правальскі, які таксама балатуецца на пасаду прэзідэнта, прапанаваў ЦВК не рэгістраваць ініцыятыўную групу дзеючага кіраўніка дзяржавы на той падставе, што той не асабіста падаў у Цэнтрвыбаркам заяву (гэта зрабіў кіраўнік яго ініцыятыўнай групы Аляксандр Радзькоў).

Аднак, як сказала Ярмошына, ёсць практыка, калі замест прэтэндэнтаў дакументы падавалі іх давераныя асобы — такое было, у прыватнасці, на мясцовых выбарах. Лукашэнка, паводле яе слоў, напісаў даверанасць на падачу дакументаў і ўсе дакументы падпісваў асабіста, таму падстаў для адмовы ў рэгістрацыі яго ініцыятыўнай групы няма.

Паўсталі таксама пытанні па рэгістрацыі ініцыятыўных груп беспрацоўнага мінчаніна Сяргея Іванова і віцебскага прадпрымальніка Уладзіміра Правальскага, аднак большасцю галасоў ЦВК зарэгістравала іх групы.

Заявы астатніх прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта былі зарэгістраваны аднагалосна.

Такім чынам, на пасаду кіраўніка дзяржавы прэтэндуюць 17 чалавек:

- ■ інжынер-будаўнік **Пётр Барысаў;**
- ■ лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі **Сяргей Гайдукевіч;**
- ■ першы намеснік старшыні Беларускай партыі "Зялёныя" **Юрый Глушакоў;**
- ■ беспрацоўны **Сяргей Іваноў;**
- ■ намеснік старшыні Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў;**
- ■ загадчык лабараторыі абсталявання ядзерных энергетычных установак Аб'яднанага інстытута энергетычных і ядзерных даследаванняў "Сосны" **Іван Кулікоў;**
- ■ дзеючы прэзідэнт **Аляксандр Лукашэнка;**
- ■ старшыня аргкамітэта па стварэнні саюза "За мадэрнізацыю" **Алесь Міхалевіч;**
- ■ лідар грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!" **Уладзімір Някляеў;**
- ■ індывідуальны прадпрымальнік з Віцебска **Уладзімір Правальскі;**
- ■ сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" **Віталь Рымашэўскі;**
- ■ намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Яраслаў Раманчук;**
- ■ начальнік сектара знешнеэканамічнай дзейнасці ААТ "Віцебскі плодаагародніны камбінат" **Сяргей Рыжоў;**
- ■ лідар кампаніі "Еўрапейская Беларусь" **Андрэй Саннікаў;**
- ■ лідар аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) **Мікалай Статкевіч;**
- ■ старшыня савета Асацыяцыі малога і сярэдняга прадпрымальніцтва **Віктар Цярэшчанка;**
- ■ дырэктар ТДА "Трывіум" **Дзмітрый Ус.**

# Â Í È Ì À Í È Å!

В ОАО «АСБ «Беларусбанк» открыт благотворительный счёт для сбора средств на лечение

## ЗАБЛОЦКОЙ КРИСТИНЫ

**(2007 года рождения)**

**Диагноз – острый лимфобластный лейкоз**



БЛАГОТВОРИТЕЛЬНЫЙ СЧЁТ
открыт в филиале № 208 в г. Глубокое, ул.Коммунистическая, 8а
УНП 300022353 МФО 150801640
**транзитный счёт №3819382605263**
**на благотворительный счёт № 000004**
**в филиале № 208**
НАЗНАЧЕНИЕ ПЛАТЕЖА:
для зачисления на благотворительный счёт на имя Заблоцкой Аллы Михайловны для лечения Заблоцкой Кристины Александровны

**НЕ ОСТАНЬТЕСЬ РАВНОДУШНЫМИ К ТЕМ, КОМУ НУЖНА ВАША ПОМОЩЬ !**

Äîêøûöê³ ðà¸í

# Àäõîäû ¢ äàõîäû

■ **Станіслаў Раманчук**

**Услед за іншымі прадпрыемствамі сваёй галіны і Бягомльскі лясгас, што ў Докшыцкім раёне, сур'ёзна павялічыў аб'ёмы лесагаспадарчай і прамысловай дзейнасці.**

Тут яшчэ летась правялі тэхпераўзбраенне і мадэрнізацыю вытворчасці, якая стала безадходнай, і выйшлі на рубеж перапрацоўкі ў год да 12 тысяч кубаметраў драўніны. Усе апілкі і шчапу сталі выкарыстоўваць ва ўласнай кацельні для абагрэву цахоў, гаражоў і сушыльных камер. Частку пілава прадаюць таксама райкамунгасу, а вялікім запасам адходаў дрэваапрацоўчага цэха таксама знайшлі прымяненне. Ужо ў снежні тут пачнуць на нямецкім абсталяванні коштам 580 тысяч еўра выпускаць экалагічна чыстае паліва ў драўляных гранулах. Патрэбны крэдыт на новае імпартнае абсталяванне для цэха па выпуску пеллетаў прадаставіў па крэдытнай лініі адзін з замежных банкаў. На іх сёння ёсць устойлівы попыт у краінах Прыбалтыкі і іншых дзяржавах Еўрасаюза. У лясгасе ёсць заказы на гэтыя акультураныя дровы і з Германіі. У калектыве разлічваюць ад іх продажу штомесячна папаўняць грашовую выручку дадаткова на 50 т болей тысяч еўра і ўжо праз год працы акупіць нямецкае абсталяванне.

Ïîëàöê³ ðà¸í

# Óñ³ì õàï³ëà ãðûáî¢

■ **Кастусь Александровіч**

**Вайскоўцам запасу старэйшых пакаленняў у маладосці не аднойчы прыходзілася летам і зімой бываць і "ваяваць" на вялізным ваенным палігоне каля вёскі Дрэтунь Полацкага раёна.**

Пасля распаду СССР гэта мясцовасць у суверэннай Беларусі перастала быць мілітыразаванай і палігон закрылі. Але паранейшаму на вялізнай лясістай тэрыторыі – сапраўднае раздолле для грыбнікоў, што і пацвердзіў днямі другі па ліку адкрыты чэмпіянат раёна ... па збору грыбоў. Сотні аматараў "ціхага палявання" сабраліся сюды і разам меней чым за 4 гадзіны такіх рэдкіх спаборніцтваў сабралі цэлых 1,5 тоны ядомых грыбоў. Лепшай рэкламы на ўсю Беларусь цяжка нават прыдумаць, бо чацвёра лепшых грыбнікоў сабралі сваёй камандай 123 кг дароў лесу . Адзін з жыхароў раёна Мікалай Карасёў выйграў прыз за самы вялікі прыгажун баравік вагой амаль 900 грамаў. Дарэчы, мясцовыя спрактыкаваныя жыхары кожны такі грыбны сезон, як сёлетні, на зборах грыбоў зарабляюць па 2 і болей млн. рублёў у месяц. Акрамя дзяржаўнага гандлю існуе канкурэнцыя з прыватнікамі, якія даюць болей грошай за грыбы, перапрадаючы іх потым за мяжу. Мясціны ў Маласітнянскім сельсавеце рэальна прэтэндуюць на званне самых грыбных у нашай краіне.

Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 30.09.10 | | | | пятн. 01.10.10 | | | | сб. 02.10.10 | | | | нядз. 03.10.10 | | | | 04.10.10 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +3 | +3 | +9 | +5 | +4 | +4 | +8 | +5 | +5 | +4 | +8 | +5 | +4 | +4 | +9 | +4 | +1 | +2 | +7 |
| Ціск, мм | 749 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 751 | 752 | 752 | 753 | 754 | 755 | 756 | 757 | 758 | 758 | 759 | 759 | 758 |
| Вільготнасць, % | 78 | 81 | 54 | 76 | 90 | 85 | 60 | 81 | 92 | 92 | 68 | 88 | 94 | 89 | 65 | 74 | 85 | 83 | 58 |
| Вецер м/сек | С-В 5 | С-В 6 | С-В 4 | С-В 5 | С-В 4 | С-В 4 | В 2 | С-В 4 | С-В 4 | С-В 4 | В 2 | В 3 | В 4 | В 4 | В 3 | В 4 | В 4 | В 4 | В 2 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Цэны на спажывецкія тавары і паслугі ў Беларусі ў жніўні, у параўнанні з ліпенем, падвоіліся і выраслі на 0,6 %, найбольш значна – на прадукты харчавання, гадавая інфляцыя за 8 месяцаў склала 7,7 %. Прэзідэнт А. Лукашэнка заявіў, што пенсійны ўзрост для беларусаў павялічваць не плануецца, яшчэ прапанаваў узмацніць адказнасць вадзіцеляў за язду ў нецвярозым стане. Большасць беларусаў не сумняваецца наконт вынікаў прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных на 49 дней раней магчымага тэрміну. Таксама нерэальна нам разлічваць на павелічэнне аб'ёмаў ільготных паставак расійскай нафты ў наступным годзе.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама аб'явіў, што з 2011 года ўсе інвестыцыі фірм у абнаўленне вытворчасці і на закупкі новага абсталявання не будуць абкладацца падаткамі.

**Грузія.** У лютым 2011 года краіна ўпершыню афіцыйна адзначыць дзень акупацыі сваіх аўтаномій Абхазіі і Паўднёвай Асеціі войскамі Расіі. Іх незалежнасць свет не прызнаў.

**Косава.** Насельніцтва краіны з энтузіязмам успрыняла рэзалюцыю ААН аб дыялогу Сербіі з краем пры падтрымцы ЕС. Гэту дзяржаву ўжо прызналі 70 са 192 краін-членаў ААН.

**Францыя.** Парламент краіны прыняў закон, які забараняе жанчынам ў грамадскіх месцах насіць адзенне,якое закрывае твар, – чадру і нікаб, за гэта будуць караць штрафам 150 EUR.

**Расія.** З-за халатнасці пры эксплуатацыі печак на Урале згарэла драўляная царква на месцы пахавання царскай сям'і, адна з сямі на тэрыторыі мужчынскага кляштара.

**Літва.** Краіна звярнулася ў Еўрасаюз з просьбай аб узгадненні і падтрымцы праекта хуткаснага цягніка Вільнюс-Мінск у рамках праграмы "Усходняе партнёрства".

**Куба.** Кіраўніцтва федэрацыі працы папярэдзіла аб звальненні 0,5 мільёна чалавек з дзяржпрадпрыемстваў да сакавіка 2011 года. Ім прапанавана ісці ў прыватныя фірмы.

**Украіна.** Генпракуратура пацвердзіла афіцыйна, што заказчыкам забойства журналіста Г. Гангадзе быў экс-міністр МУС Ю. Краўчанка.

**Інданезія.** Розныя версіі выклікала загадкавая смерць трох авіятэхнікаў з расійскага холдынга "Сухой", якіх быццам бы атруцілі пра абслугоўванні тут самалётаў СУ-27.

**Расія.** У шэрагу федэральных СМІ разгарнулася кампанія кампрамату супраць 73-гадовага мэра Масквы Юрыя Лужкова ў сувязі з тым, што грошы і пчолы яму важней, чым людзі.

**Кыргызстан.** З-за цяжкага фінансавага становішча ўрад краіны вырашыў у 4 разы (да 18 млн. $ у год) павысіць для Расіі арэндную плату за знаходжанне тут яе 4-х ваенных баз.

**Ватыкан.** Тут выказалі ўдзячнасць спецпадраздзяленню Скотланд-Ярда, якія затрымалі ў Лондане 5 "небрытанцаў", што рыхтавалі напад на Папу Рымскага падчас яго візіту.

**Індыя.** З-за моцнай паводкі ва ўсходнім штаце Асам уладам прыйшлося эвакуіраваць больш за1,8 млн. чалавек. Вада затапіла больш 500 населеных пунктаў, загінула 10 жыхароў.

**Англія.** Лондансkі суд з восьмай спробы нарэшце адправіў на 8 тыдняў у турму зорку поп-музыкі Джорджа Майкла за кіраванне машынай у стане наркатычнага ап'янення.

**ЗША.** На адной з кінастудый Галівуда пачаліся здымкі біяграфічнага фільма пра зорку рок-музыкі і групы Queen Ф. Мерк"юры. Ён выйдзе праз год да 20-годдзя яго смерці.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** За апошнія два тыдні восені прадукты харчавання на самым папулярным у горадзе Камароўскім рынку падаражэлі на 24 %, у крамах сталіцы рэзка вырас кошт грэчкі.

**Брэст.** Вядучая ў краіне кампанія "Савушкаў прадукт" спыніла вытворчасць масла з-за недахопу сыравіны. Пачаліся ў гандлі перабоі і з сырамі, бо мала паступае малака.

**Мінск.** Дэфіцыт дзяржбюджэту Беларусі ў 2011 годзе, як пацвердзіў міністр фінансаў А. Харкавец, складзе 6 трлн. рублёў, 3 % да ўзроўню ВУП, курс долара дасягне 3.170 рублёў.

**Маларыта.** Да абласных "Дажынак" у 11-тысячным райцэнтры ўпершыню ўзвялі сучасны 3- х павярховы гатэль, запрацаваў таксама і ФАК з басейнам і тэнісным кортам.

**Мінск.** Ураду краіны, як заявіў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Л. Козік, трэба больш скіроўваць сваё намаганні на барацьбу з беднасцю асноўнай масы працоўных.

**Ліда.** У складзе фінскага канцэрна Olvi яго пўзавод "Лідскае піва" стане буйнейшым, на мадэрнізацыю вытворчасці выдзелена 35 млн. $. Завод стаў 2-ім на піўным рынку краіны.

**Барысаў.** Прыватная фірма "Файв Стар +" адкрыла тут буйны 4-павярховы гандлёвы цэнтр "Клад Напалеона" плошчай 1960 кв. метраў, трэці па памерах на Міншчыне.

**Гродна.** Былы віцэ-мэр горада Аляксандр Мілінкевіч аб'явіў ад адмове ад удзелу ў прэзідэнцкіх выбарах, бо існуючае выбарнае заканадаўства не робіць іх справядлівымі.

**Мінск.** На адным з ваенных палігонаў краіны, як паведаміла Міністэрства абароны РБ, у выніку выбуху розныя раненні атрымалі адразу чацвёра беларускіх ваеннаслужачых.

**Гомель.** З-за лопнуўшага ртутнага тэрмометра на харчблоку ледзь не атруціліся парамі ртуці ў талерках на абедзе пацыенты ЛОР-аддзялення абласной клінічнай бальніцы.

**Бабруйск.** Пасол РФ у Беларусі А. Сурыкаў паабяцаў дапамогу ў справе аднаўлення на тэрыторыі крэпасці сабора А. Неўскага , узарванага бальшавікамі ў 1934 годзе.

**Слуцк.** Знойдзены ў лесе артылерыйскі снарад стаў прычынай гібелі ля вёскі Адамава 4-х лесанарыхтоўшчыкаў ва ўзросце 25-29 гадоў, якія бяздумна рашылі яго разабраць.

**Петрыкаў.** На тэрыторыі нацпарка "Прыпяцкі" ў вёсцы Ляскавічы ўпершыню прайшоў буйны фестываль этнакультурных традыцый "Покліч Палесся".

**Мінск.** У бліжэйшыя гады, як запэўніла галоўны сіноптык Белгідрамета Вольга Фядотава, моцнае пахаладанне Беларусі не пагражае, але сёлетняя зіма можа быць сур'ёзнай.

**Жабінка.** Сапраўднай зоркай райцэнтра стаў вучань 6-га класа Даніла Казлоў, які будзе прадстаўляць краіну на VIII міжнародным дзіцячым конкурсе песні "Еўрабачанне-2010".

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Верхнядзвінск.** На мясцовым масласырзаводзе пачалі будаўніцтва ўнікальнага сучаснага цэха па перапрацоўцы да 200 тон сываратцы ў суткі на абсталяванні Італіі і Славакіі.

**Віцебск.** У абласным цэнтры запусцілі сучасны мабільны аўтаматызаваны асфальтавы завод прадукцыйнасцю 240 тон сумесі ў гадзіну. Аналагаў яму няма ў Беларусі.

**Лепель.** У раёне заканчваюцца работы па ўзвядзенні адразу двух добраўпарадкаваных дзіцячых дамоў сямейнага тыпу. Іх адкрыццё намечана на лістапад гэтага года.

**Полацк.** Каля магазіна "Фрыдрыхсхавен" адкрылі памятны знак і заклалі алею дружбы з аднайменным горадам-пабрацімам, з якім падтрымліваюць партнёрства ўжо 20 гадоў.

**Орша.** Будынак былога свінарніка каля горада быў прададзены па рэкорднай цане ў 1,9 тысячы разоў большай стартавай на аўкцыёне па продажы нерухомасці– за 66 млн. рублёў.

**Віцебск.** У адным з будынкаў аб'яднання "Маналіт" адбыўся буйны пажар на складзе прыватнай фірмы, пажарныя выратавалі ад гібелі 13 рабочых, адрэзаных агнём ад выхаду .

**Глыбокае.** Пад настальгічнай назвай "Глыбачаначка – камсамолачка" прайшоў у райцэнтры конкурс-шоу, прысвечаны 90-годдзю беларускай маладзёжнай арганізацыі.

**Ушачы.** На возеры Крывое адбылося незвычайнае вяселле, на дыбоніі маладыя-дайверы, муж і жонка, абмяняліся заручальнымі пярсцёнкамі пад вадой на дне вадаёма.

**Обаль.** На пад'ездзе да чыгуначнай станцыі грузавы цягнік з Віцебска збіў адразу 9 малых дзіkіх кабаноў, іх тушы перадалі ў мясцовы лягсас, затрымкі руху паяздоў не было.

**Віцебск.** Ля старэйшай у горадзе Благавешчанскай каменнай царквы пабудовы XII стагоддзя сенсацыйна забіла крыніца з вельмі чыстай і карыснай для піцця вадой.

**Полацк.** На былым ваенным палігоне ля Дрэтуні ў 2-гі раз прайшоў адкрыты чэмпіянат на зборы грыбоў з удзелам 130 каманд. Летась рэкорд пераможцы склаў 25 кг за 4 гадзіны.

**Браслаў.** На дзяржаўнай граніцы РБ зноў мытнікі затрымалі буйны кантрабандны груз, станкі для галення, больш чым на 800 тыс. USD, якія везлі з Балгары ў Расію.

**Верхнядзвінск.** У гарадскую плошчу ўключылі дадаткова 220 гектараў зямлі з суседняга Шайцераўскага сельсавета, бо трэба ўзводзіць тут яшчэ адзін дзетсад, АЗС і магазіны.

**Віцебск.** У абласной бібліятэцы адкрылі электронную чытальную залу і далі старт еўрапейскаму руху "буккроссер", калі чытачы пакідаюць свае кнігі чытаць іншым людзям.

**Глыбокае.** На азнаямляльнай экскурсіі ў мясцовай калоніі пабывалі шэраг супрацоўнікаў суседніх райаддзелаў МНС і міліцыі. Тут "сядзяць" і 43 зняволеныя пажыццёва .

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**6,3** *млн. тон* – столькі расійскай нафты без пошлін для Беларусі можа скласці і ў 2011 годзе яе доля льготных паставак з РФ для ўнутранага спажывання. На фінішы года гэта пытанне, а таксама магчымае падаражанне цаны газу ў новым годзе мімімум да 250 $/ тыс. куб. метраў– самая галоўная і інтрыгуючая праблема для ўпраўленцаў краіны, бо ў бліжэйшы час спатрэбіцца дадатковая валютная выручка для выплат раней набраных намі замежных крэдытаў. Верагодна, суседзі з канцэрна "Газ-прама" не адступяць ад раней агучаных умоў супрацоўніцтва і нам трэба рыхтавацца да павышаных амаль да еўрапейскіх цэн на газ.

Цяпер, калі ў эканоміку кінута шмат грошай для рэзкага павышэння зарплат перад выбарамі, цяжка будзе супрацьстаяць росту інфляцыі, падаражэнню энерганосьбітаў айчыннай прадукцыі і пагаршэнню беларускіх пазіцый на знешніх рынках. Такі малюнак назіраецца сёлета ў нас пасля скарачэння імпарту ра-сійскай нафты аж на 38,8 %. У параўнанні з мінулым годам мы меней купілі ў Расіі нафты ўжо амаль на 8 млн. тон, бо цяпер за тону "чорнага золата" адтуль прыходзіцца плаціць з пошлінай 409 долараў (даражэй на 38 %).

У адрозненне ад папярэдніх гадоў, Беларусь сёлета за 7 месяцаў знізіла свой экспарт нафтапрадуктаў амаль на 5,5 млн. тон. Раней гэты від айчынных паставак быў галоўным сродкам паступлення валюты ў нашу краіну. Зараз, калі абвастрылася "інфармацыйная вайна" паміж саюзнікамі і акрамя фармальна незалежнага канала НТБ у яе ўключыліся расійскія дзяржканалы "Расія" і "Першы", чакаць паляпшэння ўзаемных адносін Крамля з Мінскам проста не выпадае. Адзінае, што беларускі бок быццам пагадзіўся на стварэнне з Расіяй сумеснага прад-прыемства па збыту электраэнергіі будучай АЭС, ад чаго нядаўна катэгарычна адмаўляўся.

Праўда, згодна з раней заключанымі дамоўленасцямі, цяперашнія льготныя ўмовы паставак нам расійскай нафты павінны быць захаваны на наступны год. Яны нават могуць быць павялічаны, калі Беларусь дакажа, што ў нас вырасла аб'ектыўна спажыванне нафтапрадуктаў на ўнутраным рынку. Зрабіць гэта можна будзе ўжо ў кастрычніку, але для гэтага трэба мець высокі рост ВУП і мець статыстыку паве-лічэння аб'ёмаў спажывання на АЗС бензіну і салярkі. Але і даказаць гэта расійскім спецыялістам будзе няпроста, бо яны ведаюць, якая сітуацыя з палівам на рынку міжнародных аўтаперавозак у суседніх краінах, куды таксама вывозіцца нямала айчыннага паліва.

Толькі зараз, калі пэўным чынам стабілізавалася становішча і выраслі аб'ёмы паставак нафты з далёкай Венесуэлы, сталі на ногі два беларускія НПЗ– у Наваполацку і Мазыры. Таксама назіраецца даволі істотны дэфіцыт харчавання на рынку Расііі, ажыятажным попытам там, як і ў Беларусі, сталі карыстацца грэчка, іншыя крупы, бульба, алей, і расці цэны на іх. У беларускую сталіцу сталі прыбываць дэлегацыі з розных расійскіх рэгіёнаў і прасіць аб павелічэнні паставак беларускіх прадуктаў харчавання, і не толькі з-за наступстваў засухі.

У такіх умовах на рынак Расіі пойдуць у значных аб'ёмах нашы прадукты харчавання, прамысловыя вырабы, Беларусь заробіць больш валюты, і расіяне могуць стаць больш лагоднымі ў "нафтавых і газавых" пытаннях. Зразумела, ацаніць поўнасцю, што будзе далей, няпроста, бо трэба ўносіць паправкі пасля прыняцця Мытнага кодэкса для трох краін-удзельніц Мытнага саюза і ў сферы паставак нафты і нафтапрадуктаў.

Пакуль жа беларускія кіруючыя работнікі Міністэрства гандлю і Мінсельгасхарча заспакойваюць, што наша краіна поўнасцю забяспечана прадуктамі харчавання і ажыятажны попыт у многіх магазінах краіны на грэчку і масла нічым не апраўданы. Аднак з-за спажывецкай панікі продаж грэчкі ў верасні вырас у 2,5 разы і адначасова выраслі цэны на яе на ўнутраным рынку, каб не было спакусы вывозіць яе за граніцу. Наперадзе ж краіну чакае ў цэлым прагназуемая палітычная кампанія, жыццё ідзе , і нікуды нам не дзецца ад таго, што даходы большасці насельніцтва застаюцца невысокімі ў параўнанні з бліжэйшымі суседзямі, не кажучы ўжо пра астатнюю Еўропу.

*У працяг тэмы, распачатай у «ВГ» №27 (535), № 28 (536), №30 (538) 29, №31 (539), № 32 (540) , № 34 (542), № 35 (543), №36 (544), 38 (546) за 2010 год.*

# Ігнапаль
## і яго ваколіцы

**Генадзь Комель**

Для тых, каму ўсе падзеі на свеце – гэта "ёжик в тумане", хачу бегла растлумачыць, як стваралася войска польскае ў СССР падчас Другой сусветнай вайны.

Да сённяшніх дзён насельніцтва штосьці ведае аб стварэнні першай пяхотнай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, краем вуха некаторыя чулі аб арміі генерала Уладзіслава Андэрса. І амаль адзінкі ведаюць першыя дні утварэння арміі Зігмунда Берлінга.

Распачнём з больш вядомага. Дзяржаўны Камітэт Абароны ад 6 мая 1943 года выдаў пастанову №ГОКО3294сс. Дакумент утрымліваў 7 пунктаў.

Другі пункт. Стралковую дывізію ўтварыць па штатным раскладзе Чырвонай Арміі з дадатковым узмацненнем: "дывізіён супрацьтанкавых 45мм гармат, танкавы полк, дывізіён 122мм мінамётаў, рота супрацьтанкавых ружжаў".

Пяты пункт. Для расквартаравання аддаць Сялецкія вайсковыя лагеры (50 км на поўнач ад Разані на рацэ Ака). Дата гатоўнасці – 15 мая. Таварышу Штадзенка з 15 мая па 5 чэрвеня 1943 года прызваць: а) старэйшае каманднае звяно ўзростам да 50 год; малодшае каманднае звяно ўзростам да 45 год; радавыя – з 18 да 40 год уключна; б) у дапаможную службу 500 жанчын – з 18 да 30 год.

У ваенных адносінах дывізія падпарадкоўвалася вярхоўнаму галоўнакамандаванню, а ў палітычным– Саюзу Польскіх Патрыётаў (кіраўнік – Ванда Васілеўская). Агульная колькасць дывізіі – больш за 12,5 тысяч салдатаў.

Аб дзейнасці дывізіі імя Касцюшкі мы сёння ведаем больш, чым нават 20 год назад, бо доўга многае замоўчвалася. І вядомая справа, розныя крыніцы (польскія, савецкія, заходнія) выкладалі падзеі па-рознаму. А таму я буду называць як мага больш прозвішчаў удзельнікаў тых падзей, мо хто на старонках газеты адгукнецца.

15 ліпеня 1943 года ў 533-ю гадавіну Грунвальдскай бітвы дывізія прымала прысягу. 30 жніўня праведзены ваенныя вучэнні. 1 верасня (4-гадовы юбілей захопу Польшы) дывізія выехала на фронт. Маршрут склаў каля 400 км. Пасля 3 тыдняў прабывання каля Вязьмы дывізія пешшу накіравалася на фронт. 12-13 кастрычніка каля вёскі Леніна Горацкага раёна Магілёўскай вобласці адбыўся першы бой дывізіі Касцюшкі.

Герой Савецкага Саюза генерел арміі Станіслаў Гіляравіч Паўлоўскі ў сваёй кнізе "Товарищи в борьбе" ўспамінае, як дывізія Касцюшкі ўвайшла тэрытарыяльна ў падпарадкаванне 33-й арміі генерала В.Л. Гордава 70-га корпуса В.Г. Цярэнцьева. Да гэтага часу ўжо многія афіцэры з 45-й дывізіі Паўлоўскага былі ў дывізіі Касцюшкі.

Вось як апісвае атаку касцюшкоўцаў Паўлоўскі. Воіны з разгорнутымі польскімі сцягамі пад камандай афіцэраў рашуча ішлі ў атаку, але неслі вялікія страты. Шарэнгі залеглі. Камандзір батальёна Браніслаў Ляховіч сваім прыкладам падняў у атаку батальён. У гэтай атацы Ляховіч загінуў, не дайшоўшы ўсяго 6 км да сваёй вёскі. Атаку ўзначаліў паручык Раман Пазіньскі. Загінуў на гэтым жа полі. На полі застаўся мёртвым і капітан Уладзіслаў Высоцкі (апошнюю кулю пакінуў сабе).

Уладзімір Аляксандравіч Радзівановіч, намеснік камандзіра дывізіі імя Касцюшкі, у сваёй незакончанай і нявыдадзенай кнізе "Пад польскім арлом" расказвае, як савецкія артылерысты, падтрымліваючы атаку палякаў, у захапленні крычалі: "Нех жые Польска".

Неацэнную крыніцу ведаў бітвы пад Леніна дае Люцыян Шэнвальд (1909 – 1944). Паэт Шэнвальд падчас вайны знаходзіўся ў Львове. Шмат друкаваўся. Працаваў на радыё. З 22.06.1941г. у Чырвонай Арміі, але быў арыштаваны і сасланы ў Сібір. З 1943 года ўступіў у дывізію імя Касцюшкі і стаў яе летапісцам.



Мемарыял пад Леніна. Урачысты мітынг ля музея. *Фота mahilou.org*

Многія ўдзельнікі баёў з боку гітлераўскай кааліцыі сцвярджаюць, што санітарныя батальёны павінны быць з дужых мужчын, што паспрыяе змяншэнню колькасці ахвяр з боку параненых. Польскі палкоўнік Станіслаў Галіцкі падцвердзіў, што раненыя ляжалі па тры дні без ежы. Ды гэта ж малюсенькі грэх. А колькі іх, раненых, загінула, бо жанчыны (гэта толькі савецкая мода – выкарыстоўваць толькі жанчын, а салдат, якія дапамагалі выносіць раненых,лічыць дызерцірамі)—адзіны санінструктар на роту – не маглі з раненымі справіцца.

Баляслаў Кіневіч (1907 – 1969) – намеснік камандзіра дывізіі – падцвердзіў, што раненыя гінуць на полі бою. Таму было вырашана кожнаму палку, адыходзячы пасля бітвы, даручыць двум узводам салдат падборку раненых і збор трафеяў.

Палкоўнік Сакорскі, нампаліт дывізіі, заўважыў, што 40 аўтаматчыкаў трымаліся ў тылу ворага да апошняга патрона, а камандзіры не ведалі аб іх паўтара сутак.

Пасля двухдзённых баёў дывізія адведзена. Загінула 510 афіцэраў і салдат. Раненых было 1800. Многія трапілі ў палон.

Ваенны гісторык Станіслаў Ячынскі пісаў, што ўчастак фронту, які займала дывізія, заставаўся нерухомым да чэрвеня 1944 года. 253 чалавекі былі ўзнагароджаны савецкімі і польскімі ўзнагародамі. А Высоцкі і Анэляк Кжывань сталі Героямі Савецкага Саюза пасмяротна.

Як успамінае Радзівановіч, 30 красавіка 1945 года дывізія імя Касцюшкі размяшчалася ў Берліне так: першы пяхотны у дамах паміж вуліцамі Канта і Бісмарка, другі і трэці полк – паміж вуліцамі Бісмарка й Франкліна. Да моманту капітуляцыі гітлераўцаў выйшлі з баямі да цэнтра парка Цыргартэн.

Нашы часці пакідалі Берлін. Палкі першай дывізіі імя Касцюшкі ўзнагароджаны крыжам Грунвальда трэцяй ступені, ордэна Вертуці Мілітары чацвертай ступені, Чырвонага сцяга і Кутузава другой ступені, прайшлі цырыманіяльным маршам праз Брандэнбургскія вароты, на якіх побач з савецкімі сцягамі знаходзіўся і польскі.

Войска рыхтавала сябе да парада Перамогі. Але я штосьці не знайшоў, хто з іх там удзельнічаў.

У папярэдніх нарысах я ўжо ўзгадваў, як ездзіў у Катынь. Гэта было ў дзень бітвы пад Леніна 12 лістапада, дзень, які лічыцца ў Польшы днём заснавання Войска Польскага.

Мемарыял пад Леніна (былая вёска Раманава па прозвішчы свайго ўладальніка пана Раманава), які мы ў гэты дзень наведалі, зрабіў прыемнае ўражанне. Мерапрыемствы гэтага свята былі добра спланаваны з запрашэннем з Польшы аркестра і ганаровай варты.

*Працяг будзе.*

**BIEŁARUSAM U NARODNYM DOMIE MIEJSCA NIAMA.**

**Hłybokaje.** U našym miastečku jość narodny dom, jaki pabudawany koštam parachwijan. Dom budawaŭsia pad kiraŭnictwam ksiandza, parachwijanie składali składki na hety dom i wazili budaŭlany materjał. Ciapier zawiedywaje hetym domam ks. Dziekan. U Hetym domie stawiać nawat spektakli Žydy, a Biełarusam stawić spektakli ŭ hetym domie ks. Dziekan nie pazwalaje, nie zważajučy na toje, što hety dom pabudawany mazalom biełaruskaha sielanina. Woś jakaja sprawiadliwaść! — Biełarusy pawinny tolki pracawać i druhim pamahać, a karystać dyk im nia možna.

Parachwijanin.

# Вось якая справядлівасць!

**Ул. Скрабатун**

Кастусь Шыталь даслаў нам цікавую газетную вынятку з 1930-ых гг. Тэкст напісаны па-беларуску лацінкай. Праўдападобна, што апублікаваны ў нейкай беларускай каталіцкай газеце. Праблема, якая ўзнімецца ў гэтай нататцы, не так ўжо неактуальна і сёння ў Глыбокім. Гэта праблема беларускай мовы! Як выганялі яе палякі з касцёлаў і дамоў культуры, так і ў незалежнай ужо Беларусі выганяюць са школ і садкоў. Для публікацыі ў нашай газеце мы набралі тэкст кірыліцай з захаваннем асаблівасцяў правапісу:

**Беларусам у Народным Доме мейсца няма.**

**Глыбокае.** У нашым мястэчку ёсць народны дом, які пабудаваны коштам парахвіян. Дом будаваўся пад кіраўніцтвам ксяндза, парахвіяне складалі складкі на гэты дом і вазілі будаўляны матэрыял. Цяпер заведывае гэтым домам кс. Дзекан. У Гэтым доме ставяць нават спэктаклі Жыды, а Беларусам ставіць спэктаклі ў гэтым доме кс. Дзекан не пазваляе, не зважаючы на тое, што гэты дом пабудаваны мазалём беларускага селяніна. Вось якая справядлівасць! – Беларусы павінны толькі працаваць і другім памагаць, а карыстаць дык ім ня можна.

Парахвіянін.

Засталося толькі паведаміць, што Народны Дом (Дом Людовы) знаходзіўся на той час адразу за касцёлам. Калі паглядзець здымкаў пяток з розных ракурсаў, то гэты будынак меў досыць прывабны выгляд.

Ён не перажыў вайну. Кажуць, згарэў. Шкада.



Глыбокае, 1930-ыя гг. Народны Дом (Dom Ludowy). Фота з сямейнага альбома Уладзіслава Страшэвіча (г. Гданьск)

**Роля настаўніка ў жыцці грамадства надзвычай важная.**
**Без усякага перабольшвання можна сказаць,**
**Што настаўнік трымае ў сваіх руках не толькі**
**Заўтрашні дзень краіны, але і яе будучыню.**
**Усё, што ёсць у ва мне добрае,**
**Усе мае набыткі звязаны з імёнамі дарагіх**
**Мне людзей – Настаўнікаў.**

# Школа застаецца з намі

■ **Сяргей Хайноўскі,**
*студэнт 2 курса гістарычнага факультэта БГПУ імя М.Танка.*

Ужо другі год, як я студэнт гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Студэнцкае жыццё ў параўнанні са школьным зусім іншае, больш цікавае і яркае. Але школа застаецца мілым і дарагім сэрцу ўспамінам.

Дзяцінства, настаўнік, школа! З гэтымі паняццямі ў кожнага чалавека звязана значная і, напэўна, самая светлая частка жыцця.

Школьныя гады пакінулі ў маім сэрцы незабыўны, яркі след, з цягам часу ўскалыхваючы ў душы радасныя, цёплыя ўспаміны. Першыя перамогі і няўдачы, першае каханне і расчараванне, першае і самае бескарыснае сяброўства дорыць нам гэта цудоўная, насычаная падзеямі і новымі ўражаннямі, запаветнымі марамі і адкрыццямі пара.

Менавіта за школьнай партай пачынаюць адкрывацца неабсяжныя гарызонты быцця, прыцягвае і кліча ў невядомае таямнічая будучыня. Веды і першы жыццёвы вопыт спасцігае кожны з нас у сценах роднай школы, дзякуючы шчырай, самаадданай працы настаўнікаў.

І пры любым успаміне мне заўсёды выразна бачацца твары людзей, якія сталі для мяне за гады вучобы ў школе сапраўды дарагімі і мілымі, без якіх мае школьныя дні былі б пустымі і сумнымі. Гэта мая першая настаўніца Баран Вольга Мікалаеўна, класныя кіраўнікі: Маркавец Аліна Пятроўна і Кавальская Людміла Аляксееўна, а таксама Дашкевіч Ганна Усцінаўна, Храмая Лілія Уладзіміраўна, Шылёнак Тамара Пятроўна, Рамашка Аляксей Віктаравіч і Калбасіч Юрый Пятровіч.

Дзякуй Вам, дарагія мае настаўнікі. за ласку, дабрыню, цярпенне, за парады, якія вы давалі мне. Я Вас заўсёды памятаю і люблю. Мне вельмі пашанцавала, што я вучыўся ў 2-ой гарадской школе. Сваімі добрымі справамі яна вядомая ў раёне і не толькі... У гэтым вялікая заслуга дырэктара школы Кандрацьевай Жаны Апанасаўны і ўсяго педагагічнага калектыва.

Кожны чалавек праз усё жыццё праносіць пачуццё шчырай удзячнасці настаўнікам за мудрасць навукі, спасціжэнне асноўных жыццёвых ісцін, за светлую непаўторнасць школьнага дзяцінства і юнацтва. І колькі б нам ні было гадоў– дваццаць, сорак або шэсцьдзясят,– з настальгіяй і нейкай шчымлівай тугой усё часцей мы будзем вяртацца думкамі ў тую цудоўную пару, каб зноў адчуць ні з чым не параўнальнае пачуццё бесклапотнага школьнага жыцця.

Я часта ўспамінаю сваіх школьных сяброў і аднакласнікаў. Пасля заканчэння школы нехта працягвае вучобу, хтосьці ўжо працуе. Але я спадзяюся, што мы яшчэ не раз зможам сабрацца нашай дружнай школьнай сям'ёй, расказаць сябрам аб сваіх узлётах і няўдачах, успомніць мінулае і памарыць аб будучыні.

Дарагія настаўнікі СШ № 2 г. Глыбокае, хутка Ваша прафесійнае свята, таму ад свайго імя і ад імя выпускнікоў 2009 года 11 «Д» класа дазвольце павіншаваць Вас са святам– Днём настаўніка, пажадаць Вам моцнага здароўя, дабрабыту, аптымізму, таленавітах, удзячных вучняў!

Няхай нязгасная зорка настаўніцкага шчасця заўсёды ззяе на Вашым небасхіле, асвятляе нялёгкую штодзённую працу, кліча да новых прафесійных вышынь. **Са святам!**




**Падтрымліваючы традыцыю, у першую суботу кастрычніка ( тры гады таму назад (2007) ксёндз Юозас Булька разам з прадстаўнікамі групаў Ананімных Алкаголікаў (АА) заснаваў Алею Цвярозасці), у гэтым годзе сардэчна запрашаю на Дзень Цвярозасці.**

## Праграма Дня Цвярозасці:

11:00 – Канферэнцыя.
13:00 – Эўхарыстыя (Літургія), пасля – Асвячэнне фігуры цярпячага Хрыста на Алеі Цвярозасці.
14:30 – Падсілкаванне. Сустрэча груп Ананімных алкаголікаў.
**15:30 – 18:00** - Малітва перад рэлквіямі святога Юстына аб цвярозасці нашых сем'яў, моладзі і нашага беларускага народа.

Літургія Святой Імшы будзе адслужана ў інтэнцыі цвярозасці сем'яў беларускага народу.

Кожны месяц у другую нядзелю месяца ў Мосары ў 13:00 будзем маліцца аб цвярозасці нашых сем'яў, моладзі і нашага беларускага народа!!!

*Сардэчна запрашаем!*

**Ксёндз Аляксей Юркайць,**
***адміністратар парафіі Мосар.***

## Свята ў Расонах




■ **ксёндз Віктар Місевіч**

Расоншчына зведала на сабе пераслед ваяўнічага атэізму ў гады савецкай улады. Быў разбураны касцёл у Горбачаве. Ганенні зведалі як праваслаўныя, так і католікі, якіх на пачатку 20 стагоддзя ў раёне жыло каля чатырох тысяч.

Сёння беларускае грамадства развіваецца ў рэлігійнай свабодзе. Доказам шчырай веры і рэлігійнага жыцця расонцаў з'яўляецца новы касцёл. У ім будуць спраўляцца набажэнствы і раздавацца Сакрамэнты. Расонскі храм ужо сёння – месца спаткання чалавека з жывым Богам.





Яшчэ працягваюцца працы па аздабленні святыні, але ўжо можна захапляцца прыгожымі роспісамі на сценах. На адной фрэсцы пачэснае месца адведзена і святой Еўфрасінні Полацкай, асветніцы зямлі беларускай. Касцёл новы, але ўнутранае ўбранства сведчыць і пра былое. Унутры змешчаны крыж з вежы старога касцёла, у кладцы замураваная цэгла са знішчанай святыні.

Абрад асвячэння здзейсніў біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін. Паводле старой традыцыі, былі асвечаны святой вадой сцены касцёла. Адбыўся таксама абрад памазання святым алеем алтара і сцен. Алей у хрысціянскай традыцыі ўжываецца для асаблівага пасвячэння чалавека, рэчы ці будынка на Божую ўласнасць. Ён выкарыстоўваецца падчас святарскіх пасвячэнняў, сакрамэнту канфірмацыі і, як бачым, у момант кансэкрацыі храма.

Каб падкрэсліць асаблівае прызначэнне алтара для малітвы, на яго ставіцца запаленае кадзіла. Дым і водар ладана абазначае пакорныя людскія малітвы, якія будуць узносіцца з гэтага святога месца.

На расонскае свята прыехала шмат святароў, манахінь і вернікаў з розных куткоў Беларусі. Урачыстасць упрыгожвалі спевам маладыя католікі з Браслава і музычны гурт з Полацка.

Біскуп Уладзіслаў за адданую працу ў парафіі ўзнагародзіў кс. Вячаслава Барка тытулам Катэдральнага Канонікa. Кс. Вячаслаў выразіў вялікую радасць з нагоды кансэкрацыі касцёла, а таксама запрасіў ахвотнікаў у пілігрымку па святых месцах Еўропы.

Кс. Вячаслаў – арганізатар шматлікіх такіх пілігрымак. Зацікаўленыя могуць знайсці інфармацыю на сайце piligrymka.by

8 кастрычніка жыхары Віцебскай вобласці змогуць паглядзець перадачу «Вытокі» на канале ЛАД. Перадача падрыхтавана тэлекампаніяй «Віцебск» і цалкам прысвечаная святочным падзеям у Расонах. Трансляцыя адбудзецца ў 18.15.

Пазней такая магчымасць з'явіцца ва ўсіх карыстальнікаў Сеціва. Перадачу можна будзе паглядзець на партале catholic.by

***Фота: брат Карнэлій Консэк***




*Міхаіа Карандзея*

**Віншуенм з 30-годдзем!**

**Жадаем моцнага здароўя, шчасця, удачы, вялікага кахання і ўсяго самага найлепшага!!!**

Желаем счастья много-много,
Улыбок радостных букет,
Друзей здоровых и веселых
Везенья в жизни, долгих лет.
И чтобы бедам всем назло
Жилось, любилось и везло!!!



***Сястра Таня і пляменнікі Саша і Ксюша.***

# ЭЛЕКТРАЎСТАНОЎКІ – НЕБЯСПЕЧНЫЯ!

**А.С.Крывёнок,** *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага раёна*

**У ліпені ў нашай краіне адбыліся чатыры няшчасныя выпадкі са смяротным зыходам, звязаныя з уздзеяннем электрычнага току.**

У Пружанскім раёне смяротна траўміраваны камбайнер, у ГПО «Белэнерга»–тры электраманцёры.

29 ліпеня 2010 года ў філіяле «Мінскія КС» РУП «Мінэнерга» пры падрыхтоўцы працоўнага месца па нараду-допуску на ліквідаванне абрыву провада ВЛ-0,4 кв, падчас усталявання пераноснага зазямлення на лінію ВЛ -0,4 кв без праверкі адсутнасці напругі, без ужывання электраізаляльных сродкаў загінуў электраманцёр па эксплуатацыі размеркавальных сетак 5 разраду.

Тыя выпадкі, якія адбыліся, паказалі недастатковасць праводзімай працы па забеспячэнні бяспекі персаналу пры эксплуатацыі электрабсталявання. У шасці выпадках з чатырнаццаці, якія адбыліся сёлета, пацярпеў электратэхнічны персанал. У тым ліку, у чатырох выпадках работнікі загінулі ад паразы электрычным токам.

Ва ўсіх няшчасных выпадках загінулі высокакваліфікаваныя работнікі, якія праходзілі вытворчае навучанне і інструктажы, мелі IV і V групы па электрабяспецы. Аднак грэбаванне патрабаваннямі Правілаў па ахове працы прыводзіць да гібелі людзей.



# ПРАЦУЕ «ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ» ІНСПЕКЦЫІ

**А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Для своечасовага выяўлення і спынення парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства ва ўсіх структурных падраздзяленнях Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь арганізавана кругласутачная работа тэлефонаў «гарачай лініі», на якія можна патэлефанаваць і паведаміць пра парушэнні. Не выключэнне і Глыбоцкая міжраённая інспекцыя, у якой таксама кругласутачна працуе «гарачая лінія», тэлефон: 2-86-70, а таксама мабільныя тэлефоны інспектарскага складу.

Сёлета на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ад грамадзян паступіла 46 паведамленняў пра парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, усе паведамленні былі аператыўна правераны супрацоўнікамі інспекцыі. Па паступленых паведамленнях выяўлена 69 парушэнняў, у тым ліку 5 крымінальна-каральных, у парушальнікаў канфіскавана больш за 3 км. браканьерскіх сетак, 3 незарэгістраваных паляўнічыя стрэльбы, 7 м.куб незаконна нарыхтаванай драўніны.

Толькі за мінулы тыдзень ад грамадзян паступіла 3 паведамленні пра факты браканьерства.

24 верасня 2010 года на тэлефон «гарачай лініі» інспекцыі паступіла паведамленне пра крадзеж сажалкавай рыбы ў рыбгасе «Навінкі» Пастаўскага раёна, рэйдавая група недаклдна прыбыла ў рыбгас і каля 2 гадзін ночы былі затрыманы 2 жыхары Мядзельскага раёна, якія выкралі з сажалак 2 кг карпа, але далейшыя незаконныя дзеянні перарваны работнікамі інспекцыі. За здзейснены дробны крадзеж сажалкавага карпа парушальнікі панясуць адказнасць.

25 верасня 2010 года каля 1 гадзіны ночы рэйдавай групе Глыбоцкай міжраённай інспекцыі паступіла паведамленне пра тое, што на мяжы Докшыцкага і Барысаўскага раёнаў ажыццяўляецца незаконнае паляванне, група, якая прыбыла, затрымала на кукурузным полі жыхара Барысаўскага раёна, грамадзяніна Н., канфіскавана незарэгістраваная паляўнічая стрэльба, патроны, матэрыялы накіраваны ў суд Барысаўскага раёна.

Гэта толькі 2 прыклады паведамленняў, паступіўшых ад грамадзян у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю, але іх можна прыводзіць значна больш. У мінулым нумары газеты паведамлялася пра затрыманне групы браканьераў на возеры Шо Глыбоцкага раёна, у наш час Глыбоцкім РАУС у адносінах парушальнікаў узбуджана крымінальная справа па ч.4 арт. 281 КК РБ «Незаконны лоў рыбы ці водных жывёл, што пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры». Парушальнікам пагражае да 6 гадоў пазбаўлення волі.

Супрацоўнікі інспекцыі выказваюць падзяку ўсім грамадзянам, якія аказалі дапамогу ў барацьбе з браканьерствам і спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Пра ўсе вядомыя і тыя, што адбываюцца факты парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах: 8- 02156 - 2-86-70 – кругласутачна

Начальнік інспекцыі, маб.: 897-23-02, інспектары: 890-55-28, 890-55-28, 249-45-49, 308-01-23.

# Патрабаванні бяспекі пры ўстройстве і эксплуатацыі пячнога ацяплення

**В.В.Завадскі,** *старэйшы інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС*

**Парушэнне правіл пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі пячнога ацяплення – пастаянны чыннік пажараў у перыяд ацяпляльнага сезону. Па статыстыцы, вінаватымі і ахвярамі «пячных» пажараў становяцца галоўным чынам пенсіянеры, інваліды і самотныя старыя...**

Існуе заканамернасць: больш паловы пячных пажараў адбываецца ў тых дамах, дзе жывуць састарэлыя людзі. І прычына таму – не толькі парушэнне правіл пажарнай бяспекі і неасцярожнасць з-за дрэннага зроку і памяці. На жаль, старыя не заўсёды могуць адрамантаваць пячное абсталяванне на свае сіпліыя зберажэнні. А пра тое, каб яны склалі новыя печы, на жаль, парой паклапаціцца проста няма каму. Вядома, інспектары Дзяржаўнага пажарнага нагляду сістэматычна правяраюць іх і ўказваюць гаспадарам на неабходнасць прыняцця належных мер бяспекі. Але часцяком пенсіянер па сваім складаным матэрыяльным становішчы не ў стане нават адрамантаваць і абтынкаваць комін у межах гарышча, направіць электраправодку, замяніць уцяпляльнік на гарышчы на небяспечны ці зрабіць неабходную раздзелку і адступку печы, прыбіць перад ёй перадтопачны ліст.

Вось і працягваюць цепліцца няспраўныя печы. І атрымліваецца, што дзіравы «хатні агмень» становіцца агменем пажару. У сувязі з гэтым, рэкамендуецца выконваць наступныя асноўныя правілы.

Перад пачаткам ацяпляльнага сезону кожную печ (печы) і коміны неабходна прачысціць, адрамантаваць, а таксама сценавыя дымавыя каналы ў межах памяшкання і асабліва дымавыя трубы на гарышчы трэба пабяліць вапнавым ці гліняным растворам, каб на белым фоне можна было заўважыць чорныя расколіны, якія з'яўляюцца ад праходзіўшага праз іх дыму.

Печ, дымавая труба ў месцах злучэння з драўлянымі паддашкавымі ці міжпавярховымі перакрыццямі павінны мець патаўшчэнне цаглянага мура – раздзелку. Не трэба забываць і пра патаўшчэнне сценак печы.

Любая печ павінна мець самастойны падмурак і не прылягаць усёй плоскасцю адной са сценак да драўляных канструкцый. Трэба пакідаць паміж імі паветраны прамежак – адступку.

На драўлянай падлозе перад топкай неабходна прыбіць металічны (перадтопачны) ліст памерамі не меней 50 на 70 см. Каб не дапушчаць перакалу печы, рэкамендуецца тапіць яе два-тры разы ў дзень і не больш чым па паўтара гадзіны. За 3 гадзіны да адыходу да сну топка печы павінна быць спынена.

Каб пазбегнуць утварэння расколін у муры, трэба перыядычна прачышчаць комін ад сажы, якая там назапашваецца.

Попел, шлак, вугаль варта выдаляць у адмыслова адведзеныя для гэтага месцы. Не дазваляецца ўстройства такіх месцаў збору бліжэй за 15 метраў ад будынкаў, якія могуць узгарэцца.

У месцах, дзе згаральныя і цяжка згаральныя канструкцыі будынкаў (сцены, перагародкі, перакрыцці, бэлькі) прылягаюць да печаў і дымоходных труб, неабходна прадугледзіць раздзелку з незгаральных матэрыялаў.

## ЗАБАРАНЯЕЦЦА:

Пакідаць печы, якія топяцца, без нагляду ці для нагляду іх малалетнімі дзецьмі.

Ужываць для распальвання печаў гаручыя і лёгкаўзгаральныя вадкасці.

Растопліваць печы дровамі, якія па даўжыні не змяшчаюцца ў топку (па паленні агонь можа выйсці і перакінуцца на бліжэйшыя прадметы, падлогу і сцены).

Устраляванне ў паддашкавых памяшканнях гарызантальных дымавых бараноў, а таксама адтулін для чысткі дымавых каналаў.

Выкарыстоўваць для муроўкі печаў і комінаў сілікатную цэглу (за выключэннем труб вышэй даха).

Выкарыстоўваць для дымавых труб печаў керамічныя, азбестацэментавыя і металічныя трубы. У выпадку, калі комін выкананы пасродкам выкарыстання ўказаных канструкцый, то дадзеную трубу коміна неабходна абкласці глінянай цэглай у межах паддашкавай прасторы і вывесці цагляны мур вышэй пакрыцця даху на 5-7 вянкоў.

Выкарыстоўваць вентыляцыйныя і іншыя каналы ў якасці комінаў печаў.

Сушыць на печы рэчы і сырыя дровы. І сачыце за тым, каб мэбля, фіранкі знаходзіліся не менш за паўметра ад масіва печы, якая топіцца.

Выкананне гэтых правіл засцеражэ ваша жыццё ў перыяд ацяпляльнага сезону і вы зможаце спакойна нацешыцца ў халодны зімовы вечар цяплом хатняга агменю.

**МНС інфармуе:**
(па стану на 27.09.2010)
**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1047;
Гібель людзей –156, з іх дзяцей няма;
Урон – 2 105 100 000 руб.,
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 48;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 85 350 000 руб.

**Увага! Новы фотаконкурс**




# Людзі і выбары

Інтэрнэт-сайт SVABODA.ORG праводзіць фотаконкурс, прысвечаны штодзённаму жыццю падчас выбарчай кампаніі. Здыміце падзеі, твары, сытуацыі і прышліце на адрас radiosvaboda@gmail.com.

Усе аўтары апублікаваных здымкаў атрымаюць флэшку 4 GB, а пяць пераможцаў атрымаюць відэакамэру Flip.

Падвядзеньне вынікаў фотаконкурсу, вызначэньне пераможцаў і ўганараваньне адбудуцца пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

4 – 10 кастрычніка 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 4 кастрычніка





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.20** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.55** Деловая жизнь.
**08.30**«Евровидение2010».
**09.10**«В центре внимания».
**10.30**«Культурные люди».
**11.00 «Последний кордон»**
**12.10 «Элвин и бурундуки»** (США).
**13.45** «OFF STAGE LIFE»
**14.05** Женское ток-шоу
**15.20, 19.15** Новости региона.
**15.40** «Капитальное партнерство».
**16.10 «Доярка из Хацапетовки. Вызов судьбе»**
**17.05 «Спальный район»** (Россия).
**17.45** Премьера. **«Маруся»** 1-я с.
**18.50, 01.20** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55»Аннушка»**
**21.00** Панорама.
**21.55** Актуальн.интервью.
**22.10 «Апостол»**
**23.35 «Разыскивается герой»**
**01.25** День спорта.





**06.00,09.00**Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Шальной ангел»**.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10**«Контрольн.закупка».
**13.45**«Модный приговор».
**14.50**«Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Дикий молодняк».
**16.45** «Битва титанов».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20**«Обратный отсчет». «Белорусский Кувейт». Ставка на красное».
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.10** «Голоса».
**23.15** Наши новости.
**23.30** Новости спорта.
**23.35**«Жесткая посадка».
**00.35 «Евлампия Романова. Следствие ведет дилетант»**.
**01.25** Наши новости.
**01.40-01.50** Новости спорта.





**06.35** Молодежный **«Универ»** (Россия).
**07.00** ЛАДное утро.



**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Люди Шпака»**
**09.05** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.10** Джеймс Бонд – Агент 007. Боевик «Живешь только дважды»
**12.10** Пра мастацтва.
**12.40** Школа ремонта.
**13.45 «Полюби меня снова»** (Мексика).
**14.40** Мультсериал **«Дракончик и его друзья»** (Канада).
**14.55** Внеклассный час.
**15.10** Телебарометр.
**15.30**Простые упражнения
**16.05 «Налетчики»**
**16.55 «Люди Шпака»**
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.05 «Семь нянек»**
**20.35** Калыханка.
**20.55** Телебарометр.
**21.00** Белорусское времечко.
**22.05 «Интерны»**
**22.45 «Универ»** (Россия).
**23.15** Овертайм.
**23.45** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.40 «Налетчики»**





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40**«Богатая и любимая».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Я-путешественник».
**13.00** «У парадного подъезда»
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Мачеха»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер,



малыш».
**20.25** «Кинопонедельник»: **«ОБИТАЕМЫЙ ОСТРОВ»**. Россия, 2008 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: **«ВОЗВРАЩЕНИЕ В БРАЙДСХЕД»**.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Барбара Радзівіл і Жыгімонт Аўгуст»
**07:45** Прэс-экспрэс
**08:00** ПраСвет
**08:25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча: «Алімпійскі смак»
**08:50** Прыватная калекцыя
**09:10** Моўнік
**09:25** Басанож па свеце : «Штодзённае жыццё ў Амазоніі»
**09:50** Дакументальная гадзіна: «13 гадоў, 13 хвілін...» (13 lat, 13 minut), дак. фільм, рэж. Марэк Мальдзіс (Marek Maldis), Гжэгаж Лубчык (Grzegorz Lubczyk), 2006 г., Польшча
**10:40 «Малая Масква»**: 1 серыя
**11:25 «Дзённік свавольнага дзіцяці»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Тры шалёныя нулі»** 13 серыя
**17:35«Малая Масква»**:1 с
**18:20** Госць «Белсату»
**18:40** «Дзеці вялікага возера» дак. фільм,
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:25** Калыханка для самых маленькіх
**19:35** Еўропа сёння
**20:00** «З выцягнутымі рукамі» ч. 2
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:45 «Дзённік свавольнага дзіцяці»**
**23:50** Аб'ектыў

